©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 № 21, 2013

Валянцін Акудовіч

# Дыскурс сучаснага беларускага мыслення

Самацытата ў якасці прэамбулы: *"Ёсць досыць распаўсюджанае меркаванне, што чалавеку можна забараніць усё, нават дыхаць, але нельга забараніць мысліць. Магчыма, аднаму асобнаму чалавеку і нельга забараніць мысліць сам-насам, але грамадству – можна. Цяпер мы гэта добра ведаем. За камуністамі беларусам было дазволена пісаць апавяданні і раманы, маляваць карціны і ствараць скульптуры, ставіць спектаклі і спяваць песні, але нельга было мысліць... Беларусам было забаронена мысліць".* (Анталёгія, 2003).

## 1. Гісторыя паўставання дыскурсу (канец 90-х – 2000 гг.)

Задачы, якія стаялі перад інтэлектуаламі ў гэты час:

– інтэлектуалізацыя слоўніка беларускай мовы;

– актуалізацыя мысліўных ініцыятыў;

– стварэнне беларускай філасофіі ў кантэксце нацыянальнай культуры.

Сітуацыя:

– адмежаванне ад інстытуцыянальнай філасофіі (як дагматычнай і антыбеларускай);

– размежаванне з філасофскімі развагамі на рускай мове (як латэнтным агентам расійскай культуры);

– прыярытэт эўрыстычных інтуіцый над рэфлексіўнай аналітыкай (мастацкага пісьма над дысцыплінарным).

Выданні, праекты, суполкі:

– тыднёвікі "Наша Ніва", "Культура", "ЛіМ"; літаратурна-філасофскі сшытак "ЗНО"; часопісы і альманахі "Vieda", "Крыўе", "Унія", "Крыніца", "Фрагменты"; анталогіі "Беларуская думка ХХ стагоддзя", "Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня"; кнігі серыі "Адкрытае грамадства", кніжная серыя "Бібліятэка часопіса «Фрагменты»"; суполка этнакасмалогіі "Крывы", "Эўрафорум", нефармальны хаўрус "Мінскае філасофскае кола".

## 2. Гісторыя даафармлення дыскурсу (2000 – 2010 гг.)

Задача:

– рэалізацыя калектыўных і персанальных праектаў ды ініцыятыў.

Сітуацыя:

– замірэнне з акадэмічнай супольнасцю;

– супраца з рускамоўным філасофскім колам;

– перавага індывідуальнай творчасці перад канцэптуальнымі ідэалагемамі (перадусім – нацыянальным праектам).

Інстытуцыі, выданні, ініцыятывы:

– “Беларускі калегіюм”, “ЕГУ”, “Агенцтва гуманітарных тэхналогій”, семінар “Беларускае мысленне: генеалогія, кантэкст, перспектыва”; часопісы “ARCHE”, “Скарына”, “Партызан”, “Топас”, “Перекрестки”, “Палітычныя сферы”, “nihil”, “Паміж”, “DRUVIS”; маштабны праект серыі энцыклапедый Александра Грыцанава і яго ж кніжная серыя “Мыслители ХХ века”, моладзевая супольнасць “Беларуская філасофская прастора”.

## 3. Замглёнасць дыскурсу (наш час)

Задача:

– адсутнасць задачы.

Сітуацыя:

– татальная параза метафізічнай парадыгмы;

– крызіс філасофіі як інстытута;

– сістэмная сацыялізацыя мыслення.

Самацытата дзеля закальцавання кампазіцыі: *“Філасофія* ***як інстытут*** *не мае ніякай перспектывы (…) Ужо нішто не стрымае распад філасофіі як інстытута, незалежна ад таго, колькі яшчэ часу яна фармальна пратрымаецца ў гэтай фікцыі.*

*Філасофія* ***як спосаб мыслення*** *ўсё больш грунтоўна атабарваецца ў эстэтычных дыскурсах. Найперш у літаратуры (…). І гэта выглядае цалкам натуральна, калі мы пагодзімся, што ў “недаразвітыя” эпохі (Рычард Рорці) філасофія была толькі прыўкраснай фантазіяй (Пітэр Слотэрдайк) на тэму трансцэндэнтнага. Калі гэта сапраўды так, дык тады філасофіі самае месца ў мастацкай (намысленай) літаратуры (…) Зрэшты, гэты працэс ужо даўно пачаўся: Роберт Музіль, Хорхе Луіс Борхес, Чэслаў Мілаш, Мілан Кундэра, Мішэль Уэльбэк, наш Ігар Бабкоў … Што праўда, дык і тут філасофіі як філасофіі няма лішне на што спадзявацца, бо яна становіцца адно дадаткам да літаратуры, якая, да таго ж, сама не мае асаблівых перспектыў застацца ў сваім самадастатковым і высокім значэнні.*

*Філасофія ўжо* ***як уласна філасофія,*** *магчыма, пакрысе вернецца ў сваю даінстытуцыянальную пару, у пару антычных «ліцэяў» ды «акадэмій» як індывідуальных практык заангажаваных у філасофію асобаў (…). Але я б цалкам не выключаў, што недзе там, у інтэлектуальных забавах апантаных аматараў, можа адбыцца прынцыповы зрух у філасофскім мысленні (праўда, пакуль зусім не зразумела ў які бок і, найперш, дзеля каго, бо таго чалавека, якому была патрэбная філасофія, ужо няма і, здаецца, болей не будзе).*

*І апошняе. Цалкам магчыма, што сучасная беларуская філасофія, якая пачыналася з рэфлексіі над Беларуссю, так ёю і заканцуецца. Гэта значыць, яна ўжо не паспее сфармавацца ў філасофію як інстытут. Што зусім не адмаўляе з’яўлення ў*

*нас (гады ў рады) філасофскіх «ліцэяў» у тым сэнсе, пра які згадвалася вышэй...”* (Акудовіч, 2012: 9-10).

**Літаратура**

1. *Анталёгія сучаснага беларускага мыслення* (2003). Санкт-Пецярбург: Неўскі прастор.
2. Акудовіч, Валянцін (2012). “Wozu noch Philosophie?”, *Торос,* № 1.